



# Рэгіянальная газета. Rh.by



НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ ...НАЛЬНАЯ ...А ГОДА ...15

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

9 лютага 2018 года №6 (1189)

12+


# БАРЫС КІТ

107 год

## Памёр найпершы ў свеце беларус, дзякуючы якому амерыканцы паляцелі на Месяц

Што мы павінны ведаць пра Барыса Кіта

старонка 19

Калаж Зоі ХРУЦКАЙ.



## Работнікі дзяржпрадпрыемства "Стайкі" абураюцца малым заробкам

старонка 2

## На сустрэчу з начальнікам абласнога ўпраўлення аховы здароўя прыйшло шэсць маладзечанцаў

старонка 5

# Маю права

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# "Навошта нам выходзіць на працу, калі ўсё роўна зарабляем мінімалку?"

## Работнікі дзяржаўнага прадпрыемства "Стайкі" абураюцца малым заробкам

ВІЛЕЙКА

**Іх крыўдзяць і заробкі, і стаўленне кіраўніцтва да праблем.**

Адна з работніц у размове з "РГ" сябе просіць не называць, бо баіцца наступстваў – пачнуць ціснуць праз дзяцей.

– Зарплаты і гадзіны знялі. Апошні заробак – 269 рублёў за 20 дзён працы. Дома сем чалавек, лічыце. Тэлевізар узяла ў растэрміноўку, плачу 60 рублёў. Хутка машынку прывязуць – 21 рубель на два гады. Заплаціць за камунальныя паслугі, інтэрнэт – больш за 100 рублёў. Трэба ж дзяцей апрануць. Муж таксама ў калгасе. Увесь месяц без выхадных, атрымаў каля 350 рублёў. Яны рукамі грузяць і вывозяць гной. Колькі брыгадзір ні ваявала з канторай, нічога не дабілася. Знайсці іншую працу немагчыма – тут толькі фермы і ўсё.

Зарплаты работнікаў знізіліся ў снежні. Гэтаксама, як і год таму, таксама перад Новым годам. Тады рэдакцыя адправіла прадпрыемству запыт з просьбай патлумачыць сітуацыю з заробкамі. Адказу мы так і не дачакаліся. Затое, па словах нашай субяседніцы, у студзеньскую зарплату і наступныя сумы пачалі павялічвацца.

Ад сакавіка, кажа жанчына, пачалі выдаваць нармальны заробак.

– Менш за 400 рублёў я не зарабляла, працягвае яна. – Усе скардзяцца, але толькі тады, калі няма начальства. На сямігадзінны рабочы дзень паставілі даярак. Наш асноўны заробак залежыць ад малака і прывагі жывёлы. Раней мы здавалі малако на Мінск. Цяпер малако ідзе толькі на Вілейку. Цялушак вырошчваем, а бычкоў здаём на іншыя прадпрыемствы. Раней з аднаго прыйдзе, з другога, і неяк абарот ішоў. Цяпер глуха! На работу ісці не хочацца, таму што не ведаеш, чаго чакаць.

### "Пасадзілі за пусты стол"

Пра маладога кіраўніка прадпрыемства субяседніца гаворыць так:

– Яго прывялі і пасадзілі за пусты стол. Усё было развалена да яго. Спадзяваліся, што малады, будзе рваць, але ёсць вышэйшае кіраўніцтва. Я ж яго і разумею. Гэта як прывесці ў пусты дом і сказаць "Жыві". Кожны з кіраўнікоў нешта з калгаса прыбіраў. Быў жа і свінарнік, і гусятнік. Але калгас пры вялікіх запазычанасцях быў яшчэ пры былых начальніках.

> **Не ў кіраўніку справа, цяперашні пабудзе да красавіка, і паставяць новага. Але нічога не зменіцца, за апошнія гады ў нас мяняецца толькі кіраўніцтва.**

Жанчыну крыўдзіць стаўленне да яе:

– Мы ж даяркі, і летам, і ў дождж, і ў снег працуем. Не трэба забываць рукі, якія кормяць.

Другая даярка прадпрыемства пагаджаецца з калегай:

– За 23 дні ў лістападзе атрымала 177 рублёў. Даплацілі да мінімалкі, і гэта без выплат. На рукі атрымала каля 220. Летам мелі па 380-400 рублёў. У мяне дзеці, гадую адна, як пракарміць іх, як аплаціць камуналку?

> **Часам няма чым за святло плаціць. На сходах кажуць, што на бальнічных часта ходзім. Дык сэнс мне на працу выходзіць, калі ўсё роўна мінімалка выйдзе?**




Фота: lci123rf.com.

### "Гэта сезонная з'ява"

Кіраўнік прадпрыемства "Стайкі" **Уладзімір Рапецкі** займае пасаду ад красавіка мінулага года. На пытанне, ці праўда, што некаторыя яго работнікі атрымліваюць мінімальны заробак, адказвае, так.

Аднак, паводле яго слоў, гэта сезонная з'ява. У снежні-студзені прадпрыемства спрацавала не вельмі, ад таго такі вынік.

У лютым сітуацыя павінна выправіцца дзякуючы лепшым надоям малака.

### "Добрыя кадры з досведам сышлі"

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі аднаго з былых кіраўнікоў "Стаек" **Уладзіміра Лучанка**. Цяпер ён працуе галоўным аграномам "Алай зары" ў Ерхах. Менавіта яго называюць апошнім кіраўніком, пры якім "быў парадак". Тры з паловай гады ён узначальваў прадпрыемства.

– Трэба было трымаць людзей. Людзі – гэта галоўнае. Балючае пытанне ў тым, што няма спецыялістаў, няма каманды. Калі кіраваў я, імкнуўся стварыць калектыў. Цяпер няма ні інжынера, ні талковага агранома. Толькі ветдоктар добры. Не хачу нікога крыўдзіць, але харошыя кадры, дасведчаныя, сышлі. Як сустракаюся з былымі работнікамі, кажуць, што са мной было добра, бо "пад'язджаў" да работнікаў, ці накрычу, ці пахвалю. І што рабіць ведалі, і рэакцыю адчувалі. Адзін з наступных кіраўнікоў прыедзе, пройдзе і не скажа нічога. Кажуць, і не ведаем, добра ці дрэнна працуем.

> **А да мяне далучылі адну з самых адстаючых гаспадарак, дзе даілі 2,5 літра малака на карову. Літаральна праз год даілі 12, летам даходзіла і да 16.**

Былы кіраўнік раёна **Яўген Сініла** казаў, што калі атрымаю 12 літраў зімой, буду з грашыма. Так яно і выйшла.

У Лучанка здарыўся інсульт, і ён пасля парады доктара выраšыў зменшыць працоўную нагрузку.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Чакаюць фінансавае аздараўленне

Паводле звестак райвыканкама аб сельгасарганізацыях, якім трэба дасудовае аздараўленне, "Стайкі" ў спісе маюць найніжэйшую сярэднюю зарплату – 372,2 рубля за 11 месяцаў мінулага года.

Акрамя "Стаек", у спісе таксама фігуруюць таварыствы "Алая зара", "Чурлёны", "Новая Любанія", "Новая Вілія" і "Даўгінава".

Усяго на Вілейшчыне 19 сельскагаспадарчых арганізацый.

У гаспадарцы працуе 139 чалавек – менш, чым у іншых таварыствах са спіса.

Паводле даведкі, буйной рагатай жывёлы 1633, сярод іх 755 кароў. Скаціна размешчаная на чатырох малочнатаварных фермах і адной таварнай.

# Як зберагчы і прыроду, і грошы

**Рэжым чакання**
(тэлевізары, мікрахвалёўкі, камп'ютары)

Стандартны тэлевізар за некалькі гадзін у рэжыме чакання на дзень за месяц спажывае
**2,2 квт**

1 кВт/гадзіна - 0,1218 руб.

Адмаўляючыся ад рэжыму чакання для тэлевізара, вы эканоміце
**0,27руб. у месяц**
**3,24 руб. у год**

**Чыстка зубоў**

Калі не выключаць ваду падчас чысткі зубоў, за час адной працэдуры спажываецца
**9 літраў вады**
(0,009 кубаметра)

1 кубаметр - 0,8053 руб.

Выключаючы ваду на час чысткі зубоў, адзін чалавек эканоміць
**0,40 руб. у месяц**
**4,8 руб. у год**

**Пластыкавыя пакеты**

Нават калі ў краме яго даюць бясплатна, памятайце:

пакет служыць вам каля 5 хвілін, а на звалцы раскладаецца ад 400 да 1000 гадоў

1 пакет-майка - 0,10 руб.

Ходзячы на закупы два разы на тыдзень з палатнянай торбай, вы эканоміце
**0,8 руб. у месяц**
**9,6 руб. у год**
і штогод ратуеце прыроду ад 10 кілаграмаў пластыку

**Туалетная папера**

Для вытворчасці араматызаванай белай туалетнай паперы высякаюцца дрэвы

**1 рулон** белай паперы, 100 метраў ≈ **0,60 руб.**

**1 рулон** шэрай паперы, 100 метраў ≈ **0,50 руб.**

Набываючы ў месяц чатыры рулоны шэрай паперы, зробленай з макулатуры, вы зберагаеце не толькі лес, але і
**0,4 руб. у месяц**
**4,8 руб. у год**

**Прытрымлівацца ў паўсядзённым жыцці "зялёных" парад можа быць не толькі модна, але і выгадна для кашалька. Пры дапамозе супрацоўнікаў Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск) мы даём вам чатыры парады, якія дапамогуць у гэтым пераканацца. Для пабудовы інфаграфікі ўзятыя тарыфы на камунальнае абслугоўванне, якія дзейнічаюць у Беларусі ад 1 студзеня 2018 года. Атрыманыя лічбы вы можаце памножыць на колькасць чалавек і колькасць электронных прыладаў у вашай сям'і, каб атрымаць сваю суму магчымай эканоміі.**

**Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.**

## Лясы ў рэгіёне забруджваюць гноем і будаўнічымі адходамі

**ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА**

У студзені-лютым Маладзечанская міжраённая інспекцыя выявіла, як забруджваюць і псуюць лясы ў Маладзечанскім і Валожынскім раёнах.

Работнікі ААТ "Хоўхлава" ў лясным масіве паблізу вёскі Віткоўшчына разлілі гной. 13 студзеня з дапамогай цяжкай тэхнікі – пагрузчыка "Амкадор" – сталі чэрпаць яго каўшом. Атрымалася, што яны знялі і знішчылі лясную подсцілку і жывое наглебавае покрыва на ўчастку лесу плошчай амаль у 250 метраў. Шкода, нанесеная навакольнаму асяроддзю, склала каля шасці тысяч рублёў. За парушэнне службовых асоб "Хоўхлава" чакае адміністрацыйнае пакаранне. У Адміністрацыйным кодэксе Рэспублікі Беларусь за такое парушэнне прадугледжаны штраф да 20 базавых велічынь, значыць, да 460 рублёў.

Падчас будаўніцтва аграсядзібы на мяжы лесу ў раёне вёскі Лужаны на Валожыншчыне будаўнікі некалькі разоў парушылі Адміністрацыйны кодэкс. Яны працавалі не толькі на тэрыторыі аб'екта, але і ў лесе. Тут для ўласных патрэб незаконна ссеклі кусты, спілавалі 14 елак. Сваімі паводзінамі будаўнікі нанеслі навакольнаму асяроддзю шкоду ў 551,25 рубля. Штраф за такія парушэнні складае да 30 базавых велічынь – на фізічную асобу і ад 10 да 150 – на юрыдычную.

На тэрыторыі лесу рабочыя складвалі будаўнічыя матэрыялы і адходы, што таксама забаронена кодэксам і караецца папярэджаннем або штрафам да 20 базавых на фізічную асобу і да 50 – на індывідуальнага прадпрымальніка, да 300 – на юрыдычную асобу.

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што ў лесе заканадаўствам Рэспублікі Беларусь **забаронены:**

- незаконны збор і (ці) знішчэнне ляснай подсцілкі, жывога наглебавага покрыва, здыманне (знішчэнне) урадлівага пласта глебы;
- забруджванне лесу адходамі ці сцёкавымі водамі або іншым спосабам;
- незаконная высечка або пашкоджанне дрэў і кустоў;
- узвядзенне, эксплуатацыя, рэканструкцыя, капітальны рамонт аб'ектаў пахавання;
- скідванне снегу, што змяшчае пясчана-салявыя сумесі;
- мыццё тэхнікі;
- наладжванне жывёльных могільнікаў;
- складзіраванне ўгнаенняў і сродкаў абароны раслін;
- гаспадарчая і іншая дзейнасць, якая аказвае шкодны ўплыў на лясы.

За згаданыя парушэнні прадугледжаная як адміністрацыйная, так і крымінальная адказнасць.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**старшы дзяржінспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.02 | 8.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9803 | **1,9886** |
| Еўра | 2,4618 | **2,4605** |
| Злоты, 10 | 5,9389 | **5,9010** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,5253 | **3,4880** |
| Грыўня, 100 | 7,1131 | **7,3367** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | **31.01** | **7.02** |
| Еўра | 2.4450/2.4650 | **2.4530/2.4690** |
| Долар ЗША | 1.9680/1.9840 | **1.9820/1.9920** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 31.01 | 7.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 19,19 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,96 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,95 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,30** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | 4,70 | **-** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,50** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **4,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **6,99** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **-** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **1,30** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **3,70** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,50 | **2,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 4,30 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,60 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,20 | **3,80** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **4,95** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 1,89 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **-** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

НАВІНЫ

### Выратавалі двух чалавек з-пад перакуленага трактара

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося ў вёсцы Манькаўшчына. Трактар з'ехаў у кювет і перакуліўся. Спатрэбілася дапамога МНС, каб дастаць з-пад яго людзей. Мужчыны не пацярпелі.

Паводле папярэдніх дадзеных, трактарыст не справіўся з кіраваннем.

Паводле МНС.

### Мужы выклікалі міліцыю, бо жонкі не пускалі іх дамоў

ВІЛЕЙКА

38-гадовы жыхар Вілейкі прыйшоў да жонкі, каб забраць свае рэчы. Аднак жанчына не пусціла мужа, з якім знаходзілася ў працэсе разводу. Мужчына выклікаў міліцыю.

Тады ж, 5 лютага, іншы віляйчанін прыйшоў дамоў з ізалятара часовага ўтрымання. Там ён знаходзіўся за скандал з жонкай. Жанчына ўставіла ключ у замок і таксама не пусціла мужа, які мусіў выклікаць міліцыю, распавяла намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

Аксана ЯРАШОНАК.

### Зяць знайшоў цешчу мёртвай у загарадным доме

СМАРГОНЬ

У пачатку лютага супрацоўнікі Смаргонскага РАУС з калегамі з іншых структур раскрылі забойства жанчыны.

31 студзеня 49-гадовая жанчына паехала ў вёску Лісічына ў загарадны дом. Пастаянна яна жыла разам з дачкой і зяцем.

2 лютага дачка пачала турбавацца, што маці тры дні не выходзіла на сувязь. Адправіла мужа ў вёску разведаць сітуацыю.

Зяць знайшоў цешчу мёртвай ў доме і патэлефанаваў у міліцыю.

На целе жанчыны былі шматлікія пашкоджанні. Аказалася, што жанчына была са сваім былым сужыцелем. Апошні час іх адносіны не ладзіліся.

Следчыя высветлілі, што падазраваны збіраўся з'ехаць па чыгунцы ў Мінскую вобласць. За пяць хвілін да адпраўлення цягніка яго затрымалі.

Пасля ён прызнаўся, што забіў праз рэўнасць.

Узбуджаная крымінальная справа.

Паводле УУС Гроднааблвыканкама.

### Знайшлі паляўнічых, якія незаконна забілі дзвюх казуль

ВІЛЕЙКА

Ад 4 лістапада 2017 года да 28 студзеня 2018 года было адкрытае паляванне толькі на зайца, вавёрку, куніцу, тхара, норку, андатру. Аднак не ўсе паляўнічыя выконвалі правілы.

27 студзеня падчас сумеснага мерапрыемства Вілейскага доследнага лясгаса і Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы раслiннага і жывёльнага свету ў паляўнічых угоддзях Вілейскага лясгаса па крывавых плямах на снезе ўстанавілі, што паляўнічыя незаконна здабылі дзвюх казуль.

Па слядах семярых паляўнічых затрымалі проста ў лесе, на месцы разбору забітых жывёл, распавёў намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі жывёльнага і раслiннага свету **Уладзімір Хіла.**

Цяпер парушальнікам трэба заплаціць за шкоду, нанесеную прыродзе, 5880 рублёў, а таксама пакрыць кошт забітых казуль. Гэта яшчэ 245 рублёў.

У парушальнікаў канфіскавалі сем паляўнічых ружжаў, наклалі арышт на аўтамабіль.

Аксана ЯРАШОНАК.

### Вілейскі ізалятар часовага ўтрымання – лепшы ў вобласці

ВІЛЕЙКА

Новы начальнік УУС Мінаблвыканкама **Аляксандр Кавальчук** 1 лютага ўзнагародзіў лепшыя падраздзяленні і супрацоўнікаў за мінулы год.

Па выніках 2017 года лепшым падраздзяленнем па ўтрыманні асоб, затрыманых або ўзятых пад варту, прызналі Вілейскі ізалятар часовага ўтрымання.

Начальнік ізалятара – маёр міліцыі **Анатоль Мажуль.**

Паводле УУС Мінаблвыканкама.



# Жыхар Вілейскага раёна трымаў у сябе ў гаспадарцы рабоў

ВІЛЕЙКА

**У дачыненні да 35-гадовага індывідуальнага прадпрымальніка з Вілейкі распачатая крымінальная справа за выкарыстанне прымусовай працы,**

паведамляе прэс-служба УУС Мінаблвыканкама.

Мужчына два гады пад пагрозай фізічнага гвалту прымушаў людзей працаваць на яго. Работнікі даглядалі свіней і трусоў, якіх той разводзіў у сваёй гаспадарцы.

Пра ўсё гэта стала вядома дзякуючы 30-гадоваму вяскоўцу, які ўцёк не толькі ад прадпрымальніка, але і з дома. Супрацоўнікі міліцыі знайшлі мужчыну на вакзале ў Віцебску. Па яго словах, ён ехаў хоць куды, толькі б далей ад гэтага рабаўладальніка. Пра злыбеды ён і распавёў міліцыі.

Па словах мужчыны, два гады таму ён пачуў ад знаёмых, што прадпрымальнік з суседняй вёскі шукае работнікаў. Мужчына вырашыў паспрабаваць. Першыя паўгода ўсё ішло больш-менш нармальна: прадпрымальнік плаціў грошы і нават даваў вопратку.

Але з цягам часу грошай плаціў усё менш, а прыкладна з сярэдзіны 2016-га перастаў плаціць зусім. Гэта не спадабалася работнікам, і яны перасталі прыходзіць на працу. А вось гэта ўжо не спадабалася прадпрымальніку.

Бізнесмен ведаў, што адзін з яго былых работнікаў жыве ў суседняй вёсцы і праз пару дзён прыехаў да яго дадому, збіў яго, запхнуў у багажнік машыны і адвёз да сябе на ўчастак.

Там ён прымусіў мужчыну на сябе працаваць. За некалькі дзён ён настолькі запалохаў мужчыну і задушыў яго волю, што той проста баяўся не слухацца. Дапамогі чакаць не было адкуль, бо акрамя старэнькага бацькі блізкіх сваякоў не было, а аднавяскоўцы не хацелі лезці ў чужыя справы.



**За некалькі дзён пацярпелага запалохалі і задушылі яго волю. Гаспадар прымусіў яго на сябе працаваць. Фота УУС Мінаблвыканкама.**

**Часам мужчына спрабаваў выказваць нейкі пратэст, але ўсе яго спробы не выйсці на працу жорстка перарываліся прадпрымальнікам. Некалькі разоў той прыкоўваў яго ланцугом у хляве і пакідаў на ўсю ноч. Урэшце мужчына не вытрымаў і збег.**

Цяпер падазраваны знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

Аператыўнікамі сумесна са следчымі Вілейскага РАСК праводзяцца далейшыя аператыўна-следчыя мерапрыемствы, высвятляюцца іншыя пацярпелыя, бо, па словах асноўнага пацярпелага, часам разам з ім працавалі і іншыя людзі, якіх прывозіў прадпрымальнік. Да іх ён таксама ставіўся жорстка і не плаціў ніякіх грошай.

Прыператрусе ў доме прадпрымальніка знайшлі дзве незарэгістраваныя паляўнічыя стрэльбы, а таксама мноства патронаў да гладкаствольнай зброі.

"Наша ніва".

### Жанчына распаліла кацёл бензінам і атрымала апёкі, яе сябар – у рэанімацыі

МАЛАДЗЕЧНА

У МНС паведамілі пасля апоўначы 3 лютага з прыёмнага пакоя раённай бальніцы.

Да іх па дапамогу звярнулася 25-гадовая жанчына і 23-гадовы маладзён. Абодва атрымалі апёкі.

Пацярпелая патлумачыла, што распальвала кацёл на цвёрдым паліве. Дровы былі сырыя, таму падліла бензіну. Выбухнулі пары.

Па неасцярожнасці жанчына разліла паліва і на падлогу. Так загарэлася памяшканне.

Адкрытае полымя апаліла жанчыне правае плячо, левую руку, абедзве ступні. Дактары правялі патрэбныя працэдуры і адпусцілі жанчыну дамоў.

Яе сябру пашанцавала менш. Яго шпіталізавалі ў рэанімацыю, стан стабільна цяжкі.

Ён збіваў полымя і атрымаў апёкі рук і ног.

Не выкарыстоўвайце няспраўныя печкі, не распальвайце іх гаручымі вадкасцямі і не перагравайце.

Марына ГАНЧАРОВА, Маладзечанскі ГРАНС.

### Намесніка начальніка аддзела "Мінаблтранса" падазраюць, што браў хабар

Следчы камітэт расследуе крымінальную справу па паўторным хабары. Падазраецца намеснік кіраўніка аддзела перавозак "Мінаблаўтатранса".

Яго падазраюць у тым, што ад 2016 года да верасня 2017 не менш за чатыры разы незаконна ўзяў грошы ад перавозчыкаў за станоўчае вырашэнне пытанняў, якія тады ўваходзілі ў яго кампетэнцыю.

Меркавалася, што хабар ад 100 да 700 долараў ЗША ён атрымліваў за падрыхтоўку дакументаў для дагавораў на перавозку пасажыраў у прыгарадным накірунку.

Каб разабрацца ў справе, падчас расследавання праводзілі вобшукі, вывучалі службовую дакументацыю, дапытвалі сведкаў. На маёмасць падазраванага наклалі арышт.

Следчы камітэт.

# Анкадыспансер зачыняць у маі, работнікаў працаўладкуюць

## На сустрэчу з начальнікам галоўнага ўпраўлення аховы здароўя прыйшло шэсць маладзечанцаў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**5 лютага ў Маладзечанскім райвыканкаме гараджане сустрэліся з начальнікам галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама Наталляй Баярскай.**



Наталля Баярская (у цэнтры) лічыць, што паставіць дадатковыя ложкі ў бальніцах – не праблема. Больш складана знайсці спецыялістаў.

На сустрэчы прысутнічала шэсць маладзечанцаў, хоць ліст аб вырашэнні праблем вілейскага анкадыспансера падпісалі амаль дзвесце чалавек.

Нагадаем, што ў снежні мінулага года маладзечанка **Кацярына Шытыка** вырашыла падтрымаць ініцыятыўную групу віляйчанкі **Жанны Гардынец**, якая змагалася за паляпшэнне ўмоў у вілейскім анкадыспансеры. Пра гэта "Рэгіянальная газета" пісала ў ранейшых нумарах.

Група Жанны Гардынец сабрала дзве тысячы подпісаў пад пісьмом у Адміністрацыю Прэзідэнта. Віляйчане прасілі пра перанос анкадыспансера з будынка былой турмы, паляпшэнне ўмоў для анкалагічна хворых.

Услед за вілейскім пісьмом пайшло такое ж пісьмо з Маладзечна. Дырэктар аднаго з прыватных прадпрыемстваў горада Кацярына Шытыка напісала ліст у Адміністрацыю Прэзідэнта і сабрала каля двухсот подпісаў маладзечанцаў.

Праз пэўны час маладзечанцам і віляйчанам прыйшлі адказы. У іх на 5 лютага ў Маладзечне і на 7 лютага ў Вілейцы прызначалі сустрэчу прадстаўнікоў Міністэрства аховы здароўя з гараджанамі.

### Ініцыятар збору подпісаў Кацярына Шытыка: на сустрэчу мяне не запрасілі

Пра тое, што сустрэча адбудзецца ў Маладзечанскім райвыканкаме ў 15:00, некаторым маладзечанцам паведамілі па дамашніх тэлефонах. Па словах Кацярыны Шытыкі, яе, ініцыятара збору подпісаў, чамусьці ў выканкам не запрасілі. Жанчына даведалася праз знаёмых і прыйшла без запрашэння.

– Каб была лепшая арганізацыя сустрэчы, каб хаця б за некалькі дзён паведамілі мне, каб сустрэчу прызначылі не на 15:00 – разгар працоўнага дня, – народу сабралася б значна больш. А то на такое важнае мерапрыемства змагло прыйсці толькі шэсць маладзечанцаў.

Спадзяюся, арганізатары ўлічаць гэта і сустрэчу ў Вілейцы прызначаць на больш зручны час, – падзялілася з карэспандэнтам "Рэгіянальнай газеты" Кацярына Шытыка.

На сустрэчы ў малой зале на пытанні жыхароў горада і журналістаў адказвала начальнік галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Наталля Баярская.

### Наталля Баярская: звароты з Вілейкі і Маладзечна абвастрылі праблему

Па словах Наталлі Іларыёнаўны, у вілейскім анкадыспансеры яна бывае раз на тыдзень па працы. Таму пра праблемы ведае.

– Калі б не ініцыятыва маладзечанцаў і віляйчан, ці былі б нейкія змены ва ўмовах лячэння анкалагічна хворых у Вілейцы? – запытаў карэспандэнт "РГ" у Наталлі Баярскай.

– Канешне, гэтыя звароты абвастрылі праблему, – адказала начальнік упраўлення. – Але ў 2018 годзе мы планавалі працаваць у Вілейцы ў накірунку аховы здароўя. Збіраемся пераносіць радзільню, і пытанне анкадыспансера таксама было на кантролі.

Па словах Наталлі Баярскай, да канца красавіка 2018 года хворыя будуць ездзіць на хіміятэрапію ў стары будынак. Усе працэдуры да гэтага часу тут распісаны.

Потым будынак зачыняць. У другім паўгоддзі з'явіцца па 15 ложкаў для хворых, якім патрэбная хіміятэрапія, у Маладзечне, Вілейцы і іншых раённых цэнтрах. Будзе патрэбны час, каб знайсці дактароў-спецыялістаў.

### На базе вілейскай ЦРБ будзе працаваць міжраённы скрынінгавы цэнтр

На прамянёвую тэрапію і маладзечанцы, і віляйчане ад мая будуць ездзіць толькі ў Мінск. Бо апарат у Вілейцы вельмі стары, яму больш за 30 год. Па словах начальніка ўпраўлення, Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр анкалогіі і медыцынскай радыялогіі гатовы прыняць хворых, якія раней лячыліся ў Вілейцы. У аграгарадку Лясны, што пад Мінскам, плануюць пабудаваць пансіянат для хворых.

**Рамонт старога корпуса анкадыспансера і будаўніцтва новага ў Вілейцы прызналі немэтазгодным. Па словах Наталлі Баярскай, гэта эканамічна нявыгадна.**

На базе ЦРБ Вілейкі, бліжэй да канца года, адкрыюць міжраённы скрынінгавы цэнтр для ранняй дыягностыкі анкалогіі з неабходным дадатковым абсталяваннем. Закупяць апарат УЗІ, эндаскапічнае абсталяванне і, магчыма, камп'ютарны тамограф. Другі, адрамантаваны будынак дыспансера застанецца працаваць.

### Працаўладкаванне – на кантролі ў галоўнага доктара

Што будзе з супрацоўнікамі старога анкадыспансера? Людзі хвалююцца, што могуць страціць працу. Па словах Наталлі Баярскай, галоўны доктар Вілейскай ЦРБ **Ігар Спільнічэнка** усіх супрацоўнікаў старога анкадыспасера забяспечыць працай. "Ніхто на вуліцы не застанецца", – адзначыла начальнік упраўлення.

### На сустрэчы ў Вілейцы паабяцалі, што хворым не будзе горш

У Вілейцы сустрэчу правялі ў 10:00. Прыйшло каля 30 чалавек. Пра сустрэчу Жанне паведамілі з райвыканкама.

Падчас мерапрыемства прадстаўнікі галоўнага ўпраўлення аховы здароўя пераканалі: хворым горш не будзе.

– Усю інфармацыю нам расклалі па палічках, – распавяла "РГ" кіраўнік ініцыятыўнай групы Жанна Гардынец. – Паабяцалі новае абсталяванне і скрынінгавы цэнтр. Калі гэта ўсё будзе праўдай, то вынік нас задаволіць.

Фота аўтара.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)





Гэта жах! Ніхто не думае, як людзі, што хварэюць на страшную хваробу, будуць дабірацца да бальніц і маліць аб дапамозе з надзеяй. ***Наталля.***

Ну што, пісакі, дапісаліся? ***Юры.***

У мяне хворы бацька. Нам раз на два-тры тыдні цяжка ездзіць з ім у Мінск, а тут такое! Каб аналіз у Мінску здаць, патрэбны запіс. І чакаць два-тры тыдні. А каб на прамянёвую або хіміятэрапію, увогуле не можам дачакацца. ***Святлана.***

Жах! Як глухі з нямым. Такое супрацьстаянне наладзілі! Чарговая адгаворка. "Скрынінгавы цэнтр з новым апаратам УЗІ"... Лухта! Здзіўляе, палохае абыякавасць чыноўнікаў да людзей, якія просяць аб дапамозе. Вырашылі праблему! Агідна! Страшна! ***Алег і Наталля.***

Народ, вы хоць разумееце, пра што прачыталі? Так, анкадыспансер у Вілейцы зачыняць. Але... Там плануюць зрабіць скрынінгавы цэнтр для ранняга выяўлення анкалагічнай хваробы. Спецыялісты там ёсць. Абсталяванне набудуць за кошт рэспубліканскага бюджэту. У Вілейцы, Барысаве, Маладзечне і іншых раённых гарадах у бальніцах будзе па 15 ложкаў для хіміятэрапіі. Апарат прамянёвай тэрапіі ў Вілейцы састарэў. На хімію ў Мінск не трэба будзе ездзіць (па жаданні можна). Хіміятэрапію можна будзе прайсці ў бліжэйшым горадзе. ***Ала.***

Думаю, гэта вы дрэнна прачыталі. Што за скрынінг з апаратам УЗІ? Дай бог, каб гэта праблема не датычылася ні вас, ні вашых блізкіх. Каб вы так павярхоўна не разважалі аб праблеме. ***Алег і Наталля.***

Я была на той сустрэчы. І праблема анкалогіі закранула мяне асабіста і маіх блізкіх. На вялікі жаль. І УЗІ пры скрынінгу патрэбнае... У нас сустрэча прайшла спантанна, у нязручны час. Спадзяёмся, у Вілейцы ўсё будзе больш арганізавана. ***Ала.***

У выніку сітуацыя горшая, чым была. ***Інга.***

Інга, канешне, горш лячыцца на новым апараце, чым на апараце 30-гадовай даўніны. ***Анастасія.***

Ну-ну. Паглядзім, як работнікаў працаўладкуюць. Асаблівa санітарак. ***Язэль.***




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мерсэдэс МВ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф, 1994 г.в., па запчастках. Т. Вэлком (8-044) 7413491.

• Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• Скутар Вайбер-Актыў, 100 куб. см, 2-месны. Т. (8-044) 473638.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Рухавік ВАЗ. Т. (8-044) 4703638.

### КУПЛЮ

• АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.*

• Аўто 1997-2002 г.в, дызель, універсал, можна х/б, сабе. Т. Вэлком (8-044) 4791539.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Бараўлянах, 40 кв. м. Т. (8-025) 7214454.

• 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Рабочай. Пытанні па тэлефоне. Т. (8-029) 8558089.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе. Т. (8-0176) 531545, (8-029) 5086693.*

• Гараж у ГБК № 1 у раёне Зеніт г. Вілейка. Плошча 15,1 кв. м. Добрая яма. Падвал. Т. (8-033) 3578878.*

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом у в. Насілава Маладзечанскага раёна. Ацяпленне пячное, побач праходзіць газ. Склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Зямельны участак 0,40 га. Праз 200 метраў прыпынак. 76 000 руб. Торг да месца. Т. (8-029) 5634233.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в.Куранец. Т. (8-029) 7603076.*

• Дом у Вілейцы. Вялікі участак. Побач лес. Вадасховішча. Можна абмен. Т. (8-025) 5150780.

• Дом у Вязынскім с/с, 12 км ад Маладзечна. Ёсць склеп, калодзеж, участак 0,34 га, абгароджаны сеткай. Т. (8-029) 5705728, (8-0176) 736689.*

• Дом у горадзе Маладзечна. Т. (8-029) 5044099.*

• Участак 10 сотак у Вілейцы. Т. (8-029) 8570225.*

### ЗДАМ

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*

• Здаецца ў арэнду гараж у ГК № 12 (святло, яма, сцелажы). Т. (8-044) 7905168, (8-029) 5084439.*

## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП "Дойлід-С" УНП 60007731. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы, дах, навесы, казыркі. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5062372.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", ВЕКО, Норд "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

**14.02.2018 года с 10.00 до 12.00**
начальник Молодечненского филиала
РУП «Минское областное агентство
по государственной регистрации
и земельному кадастру»
**Борисенко Владимир Васильевич**
проводит «**ПРЯМУЮ ЛИНИЮ**»

по тел. (8-0176) **658-07-25**
УНП 600199462

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар МТЗ-80, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 5539968.*

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
(8029) **762-78-98**
(8029) **332-67-79**
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

**Мэбля**

• Шафа трохстворкавая з антрэсоллю, б/у. Нядорага. Т. (8-029) 7653562, МТС.*

**Музінструмент**

• Акардэон нямецкі s. Т. (8-029) 5448700.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Куры-нясушкі маладыя, рознага апярэння, Чэшскі Дамінант, (яшчэ па старых цэнах і ўцэненыя) будуць прадавацца 10-11 лютага (у далейшым кожныя суботу і нядзелю) з 8.00 да 15.00 ужо **НА НОВЫМ І ПАСТАЯННЫМ МЕСЦЫ Ў Г. МАЛАДЗЕЧНА – АЎТАСТАЯНКА РЭЧАВАГА РЫНКУ** (праезд каля Модуля). Таксама заўсёды ў наяўнасці ячмень, пшаніца, авёс, кукуруза цэлая і молатая, к/кармы поўнарацыённыя для курэй-нясушак, свіней, трусоў, маладняку. Цэны і дастаўка дагаворныя ад колькасці. ІП Жаўток І.В. УНП 691895897. Т. (8-029) 5530942.*

• Козы пакрытыя, 2 гады, ад высокаўдойных бацькоў. Акот у сакавіку. Т. (8-044) 7462476.*

• Трусы мясной пароды для размнажэння. Ёсць розных ўзростаў. Т. (8-044) 7230423. (8-029) 7685772.*

• Парасяты белыя. Т. (8-029) 1467869, (8-029) 9073963.*

**Іншае**

• Батарэі чыгунныя, 40 см. Т. (8-029) 6319537.*

• Ванна стальная новая 170 см, 100 руб. Радыятары новыя чыгунныя, 6 секцый па 7 рэбраў, 1 рабро 6,50 руб. Крэсла-качалка б/у 40 руб. Табурэт для піяніна 25 руб. Шыфер новы,15 лістоў, 8 хваляў, 1 ліст – 4 руб. Галёшы для валёнак новыя, памеры 29 і 24,5, цана дагаворная Т. (8-029) 5634233, (8-029) 6870898.*

• Распродаж: склад вокнаў ПВХ. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5045554.*

• Сена. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Музінструменты**

• Акардэон, нядорага. Т. (8-029) 9799262.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бронзавыя статуэткі "Буды". Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Купляе калекцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6550007.*

• Бульбу буйную. Т. МТС (8-029) 2582070.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель-міжнароднік. Т. (8-029) 1338497.

• ПУП "Клімянок" запрашае на працу швачку 5 разраду і вышэй з досведам работы і ўменнем шыць хутка і якасна. Адрас: г. Вілейка, вул. Шубіна, 31-а, УНП 691170347. Т. (8-01771) 77914, (8-01771) 77915, (8-029) 7671717.*

• Швачкі з досведам працы. Т. (8-029) 3482283.*



# За зімовымі забавамі не забывайся пра вучобу

**Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.**

Люты, нарэшце, прыгадаў сваю назву і падкінуў сняжку. Таму з'явілася шмат цікавых варыянтаў баўлення часу – лыжы, санкі, канькі, снежкі.

Але пры ўсёй цікавасці і спакушальнасці гэтых заняткаў не варта забывацца пра вучобу. Тым больш, што за добрыя адзнакі "Рэгіянальная газета" прапануе вам цікавы падарунак – планшэт.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

## Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№6)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ________________________
3. Клас
Школа________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")_________
8. Дата атрымання адзнакі ________________________
9. Імя, імя па бацьку ________________________
10. Прозвішча настаўніка ________________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка________________________

## Папрасі бацькоў падпісацца на "РГ" – і атрымай гарантаваны бланк для ўдзелу ў "Дзясятачцы"

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*



Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.



Выпускнікі СШ №1 1988 года: Мікалай Апяцёнак, Тамара Пракопава, Сяргей Новаш,Таццяна Купрэвіч, Ірына Кулёніна, Людміла Міцкевіч і Аксана Сысун. Фота Наталлі ТУР.

# Пушкін, Галёш і Піраміда... І тэфтэлі з кішэні

## Выпускнікі СШ №1 пра сваё дзяцінства

МАЛАДЗЕЧНА

**Уласна, для таго і ладзяцца вечары сустрэчы выпускнікоў, каб узгадаць сябе трыццаць гадоў таму, успомніць, як дурэлі на ўроках фізкультуры, якую мянушку далі настаўніцы гісторыі і за што не любілі аднакласніцу ў валёнках.**

"Дарослых няма, ёсць толькі дзеці, якія крыху пастарэлі", – кажуць героі аднаго фільма. У школах, на вечарах сустрэчы выпускнікоў, гэтай цытаце верыш, як ніколі.

Вось яны: хлопчыкі і дзяўчынкі, якія хвалююцца, калі ў актавую залу ўваходзіць дырэктар, сароміцца гаварыць у мікрафон, у класе адразу садзяцца на тую парту, за якой сядзелі 30 гадоў таму.

У гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак ужо свае дзеці і ўнукі, а яны называюць адзін аднаго мянушкамі з дзяцінства і памятаюць, як прапускалі ўрокі.

– Мы сустракаемся кожны юбілейны год, – кажа **Мікалай Апяцёнак**, былы вучань 9 "Г" класа. Але па жыцці аднакласнікі не згубіліся, ведаем, хто дзе жыве і чым займаецца. Падтрымліваем адносіны адзін з адным.

Былыя аднакласнікі расказваюць, што сябраваць лёгка, бо амаль усе яны, выпускнікі 1988 года, звязалі сваё жыццё з родным горадам, з Маладзечнам. А некаторыя, як, напрыклад, **Аксана Сысун**, увогуле аддала 17 гадоў роднай першай школе, дзе працавала настаўніцай.

Выпускнікі 1988 года выбралі спецыяльнасці працоўныя, звычайныя.

– Але ў некаторых збылася і мара дзяцінства, – кажа Аксана Сысун. – Наша **Наташа Емяльянава**, напэўна, з першага класа ўсім казала, што будзе доктарам. Цяпер працуе доктарам у Чысці.

– Далей за ўсіх жыве наш класны кіраўнік **Надзея Аляксееўна Баранава** – у ЗША. Я на 20-годдзе запрасіў яе на вечар сустрэчы, – кажа Мікалай Апяцёнак, – яна спецыяльна, каб сустрэцца з намі, прыляталa. А цяпер узрост, здароўе.

Што ж прымушае розных людзей, з рознымі лёсамі і праз 30 гадоў збірацца разам?

> **– Ведаеце, – кажа Людміла Міцкевіч, – я ніколі не казала "Ля першай школы", заўсёды, калі трэба камусьці патлумачыць, дзе я знаходжуся, кажу "Ля сваёй школы, або ля нашай школы".**

– Гэту школу заканчвалі і нашы бацькі, і мы, пасля мы сюды вадзілі дзяцей, цяпер прыводзім унукаў, – далучаюцца да размовы **Ірына Кулёніна і Таццяна Купрэвіч**, – таму і школа блізкая нам, родная.

Новы будынак школы пабудавалі, калі выпускнікі 1988 года хадзілі ў 8 клас. Да гэтага вучыліся ў старым, ад чаго любяць гэту школу не менш.

– У нас і аднакласнікі паміж сабой жаніліся, праўда, ужо і развяліся. І выпадкаў смешных столькі было, што ўспамінаў хапае на кожную сустрэчу.

– Я ўсю школу, – кажа **Людміла Міцкевіч**, – сядзела за апошняй партай з двоечнікам і прагульшчыкам Сярожам.

Людміла ўсміхаецца і паказвае галавой на сур'ёзнага дзядзьку, які сядзіць насупраць, – на **Сяргея Мяховіча**.

– Сяргей у школу рэдка хадзіў. Памятаю, на 23 лютага прыйдзе – а ў нас тады была традыцыя віншаваць свайго суседа па парце, – падарунак забярэ, а потым зноў у школу не ходзіць. Я хвалявалася, што на 8 сакавіка не прыйдзе і мяне не павіншуе. Не, 7 сакавіка Сяргей з кветачкай ці падарункам прыходзіў, віншаваў і зноў у школу не прыходзіў.

– Ну, не хацелася мне ў школу хадзіць, – адказвае Сяргей Мяховіч. – Пасля школы вывучыўся на вадзіцеля, адкрыў усе катэгорыі. Цяпер маю сваю справу. Галоўнае, мэту паставіць, а адзнака ў дзённіку гэта не важна.

– Так, – удакладняе Людміла Міцкевіч, – былі ж і двойкі, і заўвагі ў дзённік. – Памятаю, на ўроку геаграфіі мы з **Сяргеем Новашам** нешта абмяркоўвалі. Настаўніца пытаецца ў Сяргея: "Пра які я клімат расказваю?" Ён: "Пра трапічны". "А вось і не, трапічны мы ўжо прайшлі". І да мяне: "Ну?" А я падумала, раз трапічны прайшлі, значыць, экватарыяльны. А настаўніца: "А да экватарыяльнага мы яшчэ не дайшлі. Абое давайце дзённікі або вон з класа". Сяргей выйшаў, а я паслухмяна панесла дзённік на двойку.

> **– А вы памятаеце, – кажа Сяргей Мяховіч, – у кагосьці з нашага класа былі два дзённікі. Адзін для заўваг і двоек, другі – для бацькоў.**

Акрамя ўрокаў, тагачасныя школьнікі цэлы дзень праводзілі ў школе. Хтосьці ў спартыўнай зале, а Сяргей Новаш, напрыклад, у будцы кінамеханіка.

– Калі пабудавалі новы будынак школы, са "Спадарожніка" нам прывозілі кіно. Яго трэба было некаму круціць. Навучылі мяне і яшчэ аднаго хлопца. Якое гэта было шчасце, калі не вывучыш, напрыклад, гісторыю, а тут за табой класны кіраўнік прыходзіць і просіць настаўніцу адпусціць з урока, бо трэба кіно круціць. Прыгажосць!

Ну, і, канешне ж, не абыходзілася без кур'ёзаў.

Настаўніца гісторыі **Святлана Попчанка**, якая далучылася да выпускнікоў падчас размовы, успомніла эпізод, калі ёй хацелася праваліцца ад сораму перад камісіяй з гарана.

– Быў адкрыты ўрок, на якім сядзела камісія. Адзін наш вучань спазніўся са сталовай. Ён увайшоў у клас і, пакуль дайшоў да свайго месца, дастаў з кішэняў тэфтэлі і раздаваў сваім аднакласнікам, якія па нейкай прычыне прапусцілі абед у сталовай. А ўвогуле весела было. І металалом усім класам здавалі, і ў конкурсах удзельнічалі. І на мянушку, што мне дзеці далі, я не крыўдзілася. Ведала, што яны мяне Пірамідай называюць.

> **Пірамідай Святлану Іванаўну назвалі за постаць і за тое, што яна выкладчыца гісторыі, і за тое, што піраміда – любімы помнік архітэктуры.**

– Я з вучнямі неяк эксперымент праводзіла. Мы рабілі піраміду з кардону, унутр клалі кавалачак мяса ці яблык. І яны ўнутры піраміды проста высыхалі, не псаваліся. Ну дзіва ж?

Сярод выпускнікоў 1988 года насіў мянушку і Сяргей Мяховіч.

– Мяне Пушкіным называлі за валасы кучаравыя. Я да гэтага так у "рацы" падпісаны.

Былі і крыўдныя мянушкі.

– Адну дзяўчынку Галёшай называлі, – расказвае Аксана Сысун. – Яна ў школу зімой у валёнках хадзіла. Гэта цяпер зразумела, што бацькі прымушалі насіць валёнкі, бо хварэла часта. А мы, дзеці, хіба гэта разумелі? Тады дзяжурствы былі на ўваходзе ў школу, сачылі, каб вучні пераабуваліся ў "зменку", а яна толькі галёшы здымала і ў валёнках ішла ў клас. Тады мы неяк же падпільнавалі ля школы і перакінулі праз плот. Больш дзяўчынка ў валёнках у школу не хадзіла.

А вам ёсць што ўспомніць, паважаныя чытачы, з вашага школьнага дзяцінства? Пазваніце суседцы па парце, магчыма, яна да сёння памятае, як вы спісвалі ў яе і тузалі за коскі.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Залікі з назвамі "АХ" і "БАХ" і дзявятка па біялогіі

## Вілейскі "стабальнік" здаў першую сесію ў медыцынскім універсітэце

ВІЛЕЙКА

**Летам мінулага года віляйчанін выпускнік гімназіі "Логас" Ягор Белахвостаў дзяліўся з намі сваімі ўражаннямі ад выдатных вынікаў тэставання, увосень распавёў пра першыя месяцы студэнцкага жыцця.**

А зімой прыйшоў час першай сесіі. Цяпер летані стабальнік Ягор Белахвостаў з Вілейкі распавёў пра залікі па біяарганічнай хіміі – БАХ, агульнай хіміі – АХ і экзамен па біялогіі.

Дыферэнцаваныя залікі, кажа Ягор, студэнты здавалі ў вучэбны час. Яны былі часткай заліковай сесіі, але падрыхтоўкі патрабавалі не меншай, чым да экзаменаў.

– Такі расклад нязручны, – дзеліцца Ягор. – Напрыклад, дыферэнцаваны залік быў у адзін дзень з калёквіумам па стаматалогіі. Да таго ж, перапынак паміж двума сур'ёзнымі залікамі атрымаўся ўсяго тры дні.



Ягор Белахвостаў упэўнена здаў першую сесію.

На падрыхтоўку да адзінага экзамену студэнтам далі больш часу. Можна было рыхтавацца шэсць дзён. Ніводнай ночы за падручнікамі я не правёў, прызнаецца першакурснік, клаўся спаць, як звычайна. Рыхтавацца было куды лягчэй, бо ўсю інфармацыю можна ахапіць за два-тры дні. Канешне, пры ўмове, што працуеш у час вучобы. Два дні перад экзаменам Ягор проста адпачываў.

– Цяпер я зразумеў, што рыхтавацца да ўступных тэстаў можна было пачынаць значна пазней і разлічваць на той жа вынік, – дзеліцца адкрыццём Ягор.

### Залікі былі такія, што экзамен падаўся бяскрыўдным

Да экзамену першакурснік рыхтаваўся па падручніках, часам звяртаўся да інтэрнэта, каб атрымаўся больш поўны адказ. Канспекты былі непатрэбныя. Я, шчыра кажучы, і не вёў іх, прызнаўся студэнт.

Па словах Ягора, біялогія – не складаны для яго прадмет. Да таго ж, шмат у чым там паўтараецца школьная праграма. Пасля складаных залікаў экзамен здаваўся даволі бяскрыўдным.

Уражанні ад экзамену ў студэнтаў-аднагрупнікаў былі розныя. Хтосьці выходзіў з аўдыторыі і ўзахлёб распавядаў, як яму пашанцавала з выкладчыкам. А нехта, наадварот, рэзка выказваў свае незадавальненне.

Ягор заўважыў, што асабіста для яго экзамен прайшоў у даволі дружалюбнай атмасферы. Ніхто не думаў "засаджваць" студэнтаў. Уся група здала нядрэнна. Пераздач няма, шмат дзявятак і васьмёрак.

Большасць аднагрупнікаў, па словах Ягора, разлічвалі на ўласныя веды. І ўсё ж некаторыя не забыліся і пра старую добрую традыцыю. Падчас сесіі з вокнаў можна было пачуць: "Халява, прыйдзі!"

Шпаргалкамі хлопец не карыстаўся. Кажа, так прывык яшчэ са школы: трымаць усё ў галаве і ад гэтага адчуваць сябе больш упэўненым.

Ад верасня Ягор – староста ў сваёй групе. На маё пытанне, ці не было яму ад гэтага палёгкі на экзаменах, хлопец адказаў, што падчас сесіі староста ніяк не адрозніваецца ад іншых студэнтаў.

### Ашчаджае сілы для другога семестра

Пакуль Ягор Белахвостаў пацвярджае свае ўзорныя вынікі цэнтралізаванага тэставання. Нагадаем, што летам ён атрымаў сто балаў па хіміі і 99 па біялогіі. Сесію здаў на "выдатна", з сярэднім балам дзевяць. Цяпер будзе атрымліваць павышаную стыпендыю. Дзеля гэтага, на думку хлопца, варта папрацаваць.

Цяпер у Ягора канікулы. Ён адпачывае дома, у Вілейцы. Да вучобы пакуль ніяк не прычыняецца. Кажа, ашчаджае сілы на другі семестр.

– Не хацелася б, каб з маіх слоў чытачы зрабілі выснову пра тое, што вучыцца лёгка. Гэта не так. Добры вынік – значыць, добрая праца. Вельмі важна ацаніць свае магчымасці і правільна падысці да падрыхтоўкі. Тады сапраўды ўсё можа быць не так цяжка, – заканчвае нашу размову Ягор.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае Ягорам БЕЛАХВОСТАВЫМ.**

НАВІНЫ

### Адкрылі новы комплекс пагранзаставы "Астравецкая"

АСТРАВЕЦ

Новы комплекс пагранзаставы "Астравецкая" Смаргонскай памежнай групы адкрылі каля вёскі Буйкі на Астравеччыне.

У адкрыцці ўдзельнічалі прадстаўнікі дзяржпагранкамітэта, Гродзенскага аблвыканкама і Астравецкага райвыканкама.

Утвораная ў 2014 годзе пагранзастава "Астравецкая" ахоўвае ўчастак беларуска-літоўскай Дзяржаўнай мяжы працягласцю 25 кіламетраў у Астравецкім раёне.

Тры гады асабовы склад заставы месціўся ў будынку былой школы ў вёсцы Караняты. Цяпер з'явіўся новы корпус і новае тэхнічнае абсталяванне ў ім.

На тэрыторыі ёсць пляцоўка для рукапашнага бою, месца для правядзення трэніровак па агнявой падрыхтоўцы, спартыўныя пляцоўкі.

Комплекс уключае ў сябе ўладкаванае жыллё для афіцэраў і прапаршчыкаў. У 12-кватэрным службовым доме ўжо ёсць першыя жыхары.

**Паводле сайта Астравецкага райвыканкама.**

### Да 28 лютага віляйчане змогуць выказацца пра развіццё роварнага руху

ВІЛЕЙКА

Праблемамі роварнай інфраструктуры ў Вілейцы зацікавіліся грамадскія арганізацыі, мясцовая ўлада, гараджане.

Да 28 лютага ў жыхароў Вілейкі ёсць магчымасць выказацца пра развіццё роварнага руху на Вілейшчыне. Арганізатары даследавання – Вілейскі райвыканкам, арганізацыі "Экапартнёрства" і "Жывое партнёрства".

Удзел у анкетаванні могуць прыняць як жыхары, якія часта ездзяць на роварах, так і тыя, хто пакуль толькі плануе перасесці на экалагічны транспарт. Трэба адказаць на 10 пытанняў. Адказы дапамогуць арганізатарам вызначыць асноўныя перашкоды ў развіцці роварнага руху ў горадзе. Знайсці і запоўніць анкету можна на сайце "Пагадненне мэраў у Беларусі". Анкетаванне праводзяць у межах "Пагадненне мэраў па клімаце і энергіі".

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Да "Дажынак" у Мядзеле дабудуюць гасцініцу і зробяць горад яшчэ больш утульным

МЯДЗЕЛ

У Мінскай вобласці ў 2018 годзе будзе працягвацца добраўпарадкаванне буйных населеных пунктаў, заявіў старшыня Мінаблвыканкама **Анатоль Ісачанка** 2 лютага на прэс-канферэнцыі для рэспубліканскіх і рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі. Ён нагадаў, наколькі сур'ёзная ўвага летась была нададзена добраўпарадкаванню Смалявічаў, якія сталі сталіцай абласных "Дажынак".

– Але ўсё гэта было зроблена не толькі дзеля свята, а для таго, каб акумуляваць грошы і прывесці ў парадак гэту тэрыторыю. Сёлета "Дажынкі" прыме Мядзел, і ўжо вызначаны крыніцы фінансавання работ. Да восені, думаю, зробім і гасцініцу, якая стала даўгабудам, і многія іншыя пытанні будуць вырашаныя, што дазволіць гэтаму гораду стаць яшчэ больш утульным, – адзначыў Анатоль Ісачанка.

Ён дадаў, што праца па добраўпарадкаванні розных населеных пунктаў Мінскай вобласці будзе весціся планамерна.

**Паводле БЕЛТА.**

### Вілейская сярэдняя школа №3 – адна з лепшых на Міншчыне

ВІЛЕЙКА

У Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі падвялі вынікі працы ўстаноў адукацыі Міншчыны за 2017 год. У лідарах – сярэдняя школа №3 Вілейкі і Вілейскі аддзел адукацыі спорту і турызму.

Аддзел адукацыі прызналі лаўрэатам (3 месца) абласнога конкурсу "За дасягненне высокіх паказчыкаў у галіне адукацыі" ў намінацыі "Лідар у стварэнні аптымальнага адукацыйнага асяроддзя".

У гэтым жа конкурсе, у намінацыі "Лепшая гарадская ўстанова адукацыі", трэцяе месца заняла школа №3.

Лаўрэатам конкурсу "Педагагічны старт-2017" стала малады педагог гімназіі №1 "Логас" **Вольга Лобан**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Скандынавія: кароль атрымлівае штрафы за паркоўку



Фота забяспечанае Уладзімірам АЛЬФЕРАМ.

Здаецца, жыццё не можа быць кепскім з пенсіяй у 2800 еўра.

**Сёлета ў жніўні выпала падарожнічаць па Скандынавіі – Даніі, Нарвегіі і Швецыі.**

Вандроўка натхніла мяне падзяліцца ўражаннямі.

### Як Напалеон даў Швецыі караля

Краіны падобныя па ўзроўні жыцця і кіраванні. Гэта канстытуцыйныя манархіі, прычым у Швецыі і Даніі намінальнымі могуць быць як каралі, так і каралевы. Спадкаемцамі з'яўляюцца першынцы ў каралеўскай сям'і. У Нарвегіі каралём становяцца нашчадкі мужчынскага полу.

Каралеўская ўлада выключна прадстаўнічая. Фактычна краінамі кіруе прэм'ер-міністр і парламент.

Калі Швецыя і Данія – старажытныя дзяржавы, то Нарвегія атрымала незалежнасць толькі ў 1905 годзе. Да гэтага часу яна была пад пратэктаратам Швецыі. Шведы адпусцілі Нарвегію на свабоду, мабыць, яшчэ не ведаючы пра вялікія запасы нафты і газу.

У пачатку 19 стагоддзя ў Швецыі перапынілася каралеўская дынастыя, бо апошні на той час кароль Карл XIII быў бяздзетны. Шведы звярнуліся да Напалеона з просьбай даслаць на трон каго-небудзь годнага. Прыехаў напалеонаўскі маршал Бернадот. Ён і стаў заснавальнікам цяпер кіруючай у Швецыі дынастыі Бернадот.

Каралі жаніліся з прынцэсамі каралеўскай крыві, каралевы выходзілі замуж за прынцаў, таму ў прадстаўнікоў шведскай дынастыі не было шведскіх продкаў. Іх гэта засмучала. Цяпер у Швецыі кіруе кароль Карл XVI. Яго старэйшая дачка, будучая каралева, выйшла замуж за шведа, свайго трэнера па фітнесе. У пары нарадзілася дзяўчынка. Народ Швецыі гэтаму вельмі ўзрадаваўся. Нарэшце будучая каралева, унучка цяперашняга караля, будзе хоць напалову шведкай.

Ва ўсіх скандынаўскіх краінах на ўтрыманне каралеўскіх дынастый шмат грошай не марнуюць. Каралі жывуць досыць сціпла. Напрыклад, той жа кароль Швецыі сам кіруе аўтамабілем, прычым часта няўдала, за што атрымлівае штрафы ад дарожнай паліцыі, ды яшчэ нагаляй ад жонкі.

Па насельніцтве краіны не вельмі буйныя. Данія і Нарвегія маюць па 5,4 мільёна чалавек, а Швецыя – 10 мільёнаў. У сталіцах Капенгаген, Осла і Стакгольм па мільёне жыхароў. Усе краіны утрымліваюць невялікія арміі. У арміі Даніі 17 тысяч чалавек, Нарвегіі – 29 тысяч, Швецыі – 18 тысяч.

### 2 800 еўра пенсіі

Падаткаабкладанне падобнае ва ўсіх. З вялікіх даходаў плацяць вялікія падаткі. Асабліва вялікія падаткі ў нафтагазавай і горназдабываючай галінах. Лічыцца, што нетры належаць усім.

З аднаго боку, лічыцца, што такая сістэма кансерватыўная і вядзе да вывазу капіталу, але гэтага не адбываецца. Эканоміка адна з самых хуткіх у свеце.

Хтосьці багацейшы, але няма алігархаў і няма бедных. Няма напружанасці ў грамадстве, усе задаволеныя. Скандынаўскі сацыялізм.

Высокія сярэднія зарплаты – каля 3500 еўра ў месяц, пенсіі. У Даніі самая высокая ў свеце пенсія – 2800, у Швецыі і Нарвегіі па 1500.

На пенсію датчане і нарвежцы сыходзяць у 67 гадоў, шведы ў 65.

**Жыхары, якія плацяць высокія падаткі, разумеюць: яны ідуць не ў кішэні чыноўнікаў, а на медыцыну, адукацыю, годныя пенсіі, утрыманне інфраструктуры.**

### У школе даюць бясплатныя ноўтбукі

Цэны на прадукты ва ўсіх краін прыкладна аднолькавыя: хлеб значна даражэйшы, малочныя і мясныя прадукты прыкладна аднолькавыя, як у нас, рыба больш танная. Ва ўсіх краін своеасаблівы "сухі закон". Спіртное, у тым ліку піва, прадаецца толькі ў спецыялізаваных крамах, і вельмі дарагое.

Бутэлька піва каштуе каля 10 еўра. Вельмі дарагія і цыгарэты. Вандроўнікам нязручна тое, што ў кожнай краіне свая валюта – крона.

Падобная і сістэма адукацыі – цалкам бясплатная, пачынаючы з дзіцячага садка. У Швецыі, напрыклад, дзіцяці ў школу нічога купляць не трэба. Ручкі, сшыткі, падручнікі, нават ноўтбукі – усё дадуць у школе. У Даніі і Швецыі студэнтам плацяць стыпендыю ў 400-1000 еўра, памер залежыць ад універсітэта.

Сістэма аховы здароўя цалкам бясплатная, прычым любая неабходная дапамога. Усялякія аперацыі бясплатныя.

І людзі сочаць за здароўем. Мала тых, хто курыць, я такіх не бачыў зусім, большасць актыўна займаюцца спортам. Разам з развітай аховай здароўя і добрай экалогіяй атрымліваюць добрыя вынікі.

Сярэдняя працяглаць жыцця ў Даніі ў мужчын 78 год, жанчын 86. У Нарвегіі 81 і 84, у Швецыі 81 і 86 гадоў адпаведна.

### Мігранты

Гэта тэма агульная для ўсёй Скандынавіі. Асабліва востра праблема стаіць у Швецыі. Менавіта яна прыняла найбольш мігрантаў на адзінку насельніцтва ў Еўропе. У Германіі мігранты атрымліваюць 1400 еўра ў месяц. Гэта выклікае праблемы, з-за якіх цяпер Швецыя хоча вярнуць на радзіму частку мігрантаў.

Робяць гэта даволі дзіўна. Даюць 3000 еўра і кажуць – едзьце дадому. Грошы бяруць з задавальненнем, але ехаць не хочуць.

Максімальны тэрмін пакарання ў Швецыі – 20 гадоў зняволення. Але турма ў Швецыі нам можа нагадаць санаторый. Асобная камера з выхадам на тэрыторыю, тэлевізар, інтэрнэт, спартзала, бясплатнае лячэнне, магчымасць працаваць – многія назапашваюць прыстойныя сумы. Можна вучыцца – некаторыя ў турмах заканчваюць універсітэты.

**На зняволенага ў Швецыі выдаткоўваюць 600 еўра ў дзень. Цяпер у Швецыі турмаў не хапае.**

Цікавы выпадак здарыўся з бацькам папярэдняга прэм'ер-міністра Швецыі. Аднойчы ён нецвярозы адправіўся ў краму па алкаголь на машыне. Суседзі патэлефанавалі ў паліцыю. Прысудзілі шэсць месяцаў зняволення.

Толькі ў турме не было месцаў. Паставілі ў чаргу, але ў рэшце рэшт замест зняволення прызначылі пакаранне грамадскімі працамі.

**Уладзімір АЛЬФЕР,**
**Вілейка.**

**Заканчэнне будзе.**

ТЭМА НУМАРА

# Сем фактаў пра Барыса Кіта

## Найлепшай краінай лічыў ЗША, аднак ніколі не забываў, што з Беларусі

**1 лютага ў Франкфурце-на-Майне на 108-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі дзеяч замежжа грамадзянін ЗША Барыс Кіт.**

Як гэты знакаміты беларус звязаны з нашым рэгіёнам і што мы павінны ведаць пра яго?



### 1. Як бы цяжка ні было сям'і, шмат вучыўся

Карані Барыса Кіта з Гродзеншчыны. А нарадзіўся ён у Расіі, калі яго бацька яшчэ да Першай сусветнай вайны з'ехаў у Санкт-Пецярбург. Тут 6 красавіка 1910 года нарадзіўся Барыс Кіт.

Пасля 1917 года сям'я вярнулася на радзіму. Барыс скончыў беларускую гімназію ў Навагрудку і фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта.



### 2. Арганізаваў беларускамоўную вучэльню ў Маладзечне

У вайну жыў у Лебедзеве. Арганізаваў у Маладзечне гандлёва-адміністрацыйную школу. Адным з яго вучняў быў мастак **Кастусь Харашэвіч**. Вось як ён згадваў настаўніка на старонках "РГ" ў 2011:

"У час нашага знаёмства яму было 33 гады, а мне 15. Гэта адбылося летам 1942 года ў Маладзечне, калі я паступіў вучыцца ў гандлёва-адміністрацыйную школу. Барыс Уладзіміравіч прытрымліваўся прынцыпу, што ні вайной, ні чым-небудзь іншым нельга апраўдаць, каб беларуская моладзь засталася непісьменнай".



### 3. Сядзеў у турме ў Вілейцы

У 1944 яго арыштавала гестапа пасля закрыцця вучэльні. Зняволілі ў турму ў Вілейцы. Ад расстрэлу выратавалі былыя вучні.



### 4. Ведаў сем моў

Пры гэтым часта казаў, што беларуская – найпрыгажэйшая і найпрыемнейшая ў свеце.



### 5. Амерыканцы даляцелі да Месяца дзякуючы яму

Ён вучоны ў галіне астранаўтыкі, заслужаны прафесар, найстарэйшы член Амерыканскага таварыства астранаўтыкі.

У ЗША працаваў у NASA. Вось як ён гэта прыгадвае:

"Я быў старшынёй гістарычнага сходу ў Вашынгтоне, на якім адбылося паяднанне СССР і Амерыкі ў ракетнай галіне.

Асабліва ганаруся тым, што ўдзельнічаў у распрацоўцы выкарыстання вадкага вадароду, які стаў асноўным ракетным палівам, дзякуючы чаму зрабілася магчымым падарожжа на Месяц".



### 6. На радзіме быў два разы

Толькі пасля таго як занапаў камуністычны рэжым у СССР, пачалі з'яўляцца звесткі пра яго, а затым і вучні наведаў сваю Бацькаўшчыну: у 1992 і ў 1994-м.



### 7. Найбольш утульна адчуваў сябе ў ЗША

"Я пражыў тры жыцці – у Беларусі, Амерыцы і Германіі. Але лепш за ўсё адчуваў сябе ў ЗША. Тут у кожнага сапраўды ёсць шанец стаць тым, кім пажадае. У мяне, простага беларускага хлопца, гэта атрымалася. Але я ніколі не забываў, адкуль я. У бацькоўскай хаце мы заўсёды размаўлялі па-беларуску", – сказаў Барыс Кіт у адным з інтэрв'ю.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**



Партрэт Барыса Кіта, намаляваны маладзечанскім мастаком Кастусём Харашэвічам (1927-2013).
Ва ўспамінах, надрукаваных у "Рэгіянальнай газеце" ў 2011 годзе, Кастусь Харашэвіч пісаў пра тое, што шматлікія маладзечанскія вучні Кіта апынуліся ў савецкіх лагерах за сваю любоў да беларушчыны.

## Ураджэнец Вілейшчыны паэт Уладзімір Папковіч – пра сустрэчу з Барысам Кітом

**У 2009 годзе падчас чарговага падарожжа па Германіі ездзілі з журналістам ураджэнцам Вілейшчыны Сяргеем Макарэвічам у Франкфурт-на-Майне да Барыса Кіта, паводле слоў Васіля Быкава, "найпершага беларуса ў свеце".**

*Зразумела, што я чакаў шляхетнага прыёму і глыбокай філасофскай размовы, пажадана – не пра ракетнае паліва.*

*Мы адносна лёгка знайшлі яго адрас. Абышлі дом з іншага боку і знайшлі ўваход, каля якога былі размешчаныя дзве вялікія таблiцы, на якіх былі прозвішчы і нумары кватэр.*

*Там, сярод іншых, знайшоўся і Барыс Кіт. Гаспадар адгукнуўся імгненна, але мы не зразумелі, што ён сказаў.*

*Тады пазванiў яшчэ раз, і голас адказаў: "Іду, іду..." Нейкая жанчына адчыніла ўваходныя дзверы і спыталася, да каго мы, і мы адказалі, да каго.*

*Ён радасна зарагатаў і абняў нас. Выказваў сваю бязмежную прызнасць і задавальненне. З гаспадаром мы трапілі ў доўгі калідор, абапал якога месціліся пакоі.*

*Пакой 12, дзе жыў Барыс Кіт, быў адчынены.*

**Памятаю вельмі сціплую, калі не сказаць – бедную, абстаноўку.**

*Стол, канапа, некалькі крэслаў... На сценах – фотаздымкі і дакументы ў рамках, якія павінны пацвердзіць высокі статус гаспадара.*

*З Барысам Кітом пасля бачыліся яшчэ некалькі разоў. Асабліва зацікавіўся тады ім асобай малады журналіст, мой зямляк Сяргей Макарэвіч.*

● КАЛЯНДАР

**9 ЛЮТАГА**

**105 гадоў** з часу першай пастаноўкі (1913) у Вільні камедыі Янкі Купалы "Паўлінка".

**10 ЛЮТАГА**

**1938.** 80 гадоў назад у Вязьме (Смаленская вобласць) расстраляны **Максім Гарэцкі**, пісьменнік, літаратуразнаўца, фалькларыст, лексікограф, мысляр.

**11 ЛЮТАГА**

**1807**. Нарадзіўся **Напалеон Орда** (1807 – 1883), беларускі мастак, кампазітар, піяніст. Сёння складана адназначна сказаць, кім ён быў больш – мастаком ці музыкантам. У свеце яго больш знаюць як кампазітара, а ў Беларусі атрымаў вядомасць стварэннем серый архітэктурна-гістарычных пейзажаў, якія зафіксавалі былую славу, веліч і культуру беларускага, літоўскага, польскага і ўкраінскага народаў. Да нашых дзён дайшло 1060 малюнкаў мастака, якія пераважна захоўваюцца ў музеях Польшчы і Украіны. Памёр 26 красавіка 1883 года.

**10 ЛЮТАГА**

**150 гадоў** з дня нараджэння **Каганца Каруся** (сапр. Кастравіцкі Казімір Карлавіч) (1868 – 1918), беларускага пісьменніка і мастака.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1943) **Міхася Тычыны** (Міхаіла Аляксандравіча), беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка

**13 ЛЮТАГА**

**100 гадоў** з часу прыняцця (1918) дэкрэта СНК РСФСР аб стварэнні Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкама) пры Наркамаце па справах нацыянальнасцей РСФСР.

**1974.** Памерла **Паўліна Мядзёлка**, дзеячка беларускай культуры. Нарадзілася 12(24) верасня 1893 года ў мястэчку Будслаў Вілейскага павета. У Будславе напісала свой найбольш значны твор – мемуары "Сцежкамі жыцця", якія ў фрагментах пачалі друкавацца з 1958 года.

**14 ЛЮТАГА**

**105 гадоў** з дня нараджэння **Віталя Цвіркі** (1913 – 1993), беларускага жывапісца і педагога, народнага мастака Беларусі.

**1989.** У Канадзе памёр **Вінцэнт Жук-Грышкевіч**, педагог, гісторык, літаратуразнаўца, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Германіі і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1970-1982 гг.). Удзельнік бітвы пад Монтэ Касіна. Нарадзіўся 10 лютага 1903 года ў Будславе.

**15 ЛЮТАГА**

**Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.**

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Удзельнікі дэлегацыі з нямецкага Эслінгена ў Маладзечне ў 1990-м. Ахім – другі злева.

# Маладзечна ў 1990-м падавалася бязмежна шэрым

МАЛАДЗЕЧНА

**Ахім Бош з Германіі разбіраў старыя фотаздымкі і знайшоў фота з 1990 года з Маладзечна. Карткі так працялі мужчыну, што ён захацеў падзяліцца ўспамінамі з жыхарамі горада, у які прыязджаў 27 год таму.**

Ахім трапіў у Маладзечна па праграме культурнага абмену паміж Маладзечнам і горадам-партнёрам Эслінгенам. Каля 20 чалавек з Германіі выправіліся ў паездку на тыдзень.

– Пасля доўгіх год, жывучы з пазіцыяй "ніякай Расіі", гэта было даволі экзатычна. А быў якраз год пасля адкрыцця расійскай мяжы, – прыгадвае Ахім.

## Kolchose

У 1990-м мужчына жыў у Эслінгене, пасля пераехаў у горад Кірхгайм за 15 кіламетраў. Выкладае ў музычнай школе. "Хочаце навучыцца іграць на гітары? Няма праблем – прыходзьце сюды кожны панядзелак", – жартуе Ахім.

Група з Германіі ехала цягнікам:

– Ехалі в-е-е-ельмі доўга. Цягнік называўся "Усходне-Заходні экспрэс", з Парыжа ў Маскву. Нас як дэлегатаў з горада-партнёра запрашалі на шматлікія сустрэчы. Нават не памятаю ўсіх імён. Запрашалі да кіраўніка Маладзечанскага раёна.

Дэлегацыя была таксама з візітам у Вільні. У адзін з вечароў хадзілі танцаваць у лес.

– Аднойчы завезлі на фермерскі завод... Як жа гэта называецца? А, "kolchose" – гэта правільнае слова?

## Сонца шмат, але ўсё шэрае

Акрамя Ахіма ў дэлегацыі ўдзельнічалі яшчэ трое музыкантаў, з якімі яны ўваходзілі ў групу "Авалон". Нямецкая дэлегацыя хацела паказаць падчас выступленняў сваю культуру. У адзін з вечароў гурт даў рок-канцэрт у Маладзечне. Ахім іграў на бас-гітары:

– Спявалі свае песні. Рэакцыя была тыпу "окей". Калі б мы ігралі каверы на ACDC ці іншыя папулярныя гурты 90-х, думаю, спадабалася б больш. Прайшло сто год, а я яшчэ не знакамітасць, – жартуе Ахім.

З уражанняў пра Маладзечна Ахіму найбольш запомнілася, што ў Маладзечне "усё было бязмежна шэрае". Гэты кантраст быў асабліва заўважны, калі вярнуліся ў Германію:

– Нават па дарозе праз акно мы бачылі шмат колераў паўсюль, дамы, знакі, усё падавалася такім шматколерным. І я думаў, ці гэта шматколернасць сапраўды настолькі патрэбная? У вас жа усе дамы былі шэрыя.

Справа не ў сонцы, яго было шмат, здаецца, ніводнага дажджлівага дня. А як цяпер, дамы не толькі шэрыя?

## Гарэлка з вялікіх шклянак

Госці жылі ў гасцініцы на Цэнтральнай плошчы, па ўспамінах Ахіма, вельмі вялікай. Дэлегатаў маладзечанцы запрашалі дадому, частавалі.

– Піць і есці нам даводзілася в-е-е-ельмі шмат! У ежы было шмат алею, тлустыя стравы з рускімі назвамі. Але пераважна нават вельмі смачныя. Памятаю borschtsch, дранікі. Гарэлку пілі з вялікіх шклянак.

## Чарга па хлеб

Дэлегатаў прываблівалі мясцовыя прыгажуні. "Дзяўчыну" Ахіма звалі Наташа. У Ахіма было шмат размоў з маладзечанскім перакладчыкам Сашам і яго жонкай Людмілай. З Сашам размаўлялі пра Расію і Германію.

– Усё пра Расію ў 1990-м было вельмі новым для нас. А разам з намі ў Германію прыехала 20 чалавек, якіх запрасілі ў паездку ў Эслінген. Трэба было бачыць твары людзей, калі яны ўпершыню ўбачылі Германію! Прыгадалася, як я ў Маладзечне ўбачыў, што шмат людзей стаіць перад магазінам. Пытаюся, а чаго яны чакаюць? Саша адказвае: "Хлеб". Пытаюся: "І што гэта за такі асаблівы від хлеба?", адказвае: "Ну, у нас толькі адзін від хлеба". Пытаюся далей: "Дык а што ж будзе, калі хлеба не хопіць?" – "Тады ўсе пойдуць дадому". Гэта было вельмі дзіўна. У Германіі ж 20 відаў хлеба.

Калі дэлегаты з Саюза прыехалі ў Германію, адзін з мясцовых зайшоў у хлебную краму, а дзверы перад ім адчыніліся аўтаматычна. Ён спыніўся і напужаўся, таму што ніколі не бачыў такога раней. Для іх было вялікім дзівам убачыць першы затор, ніяк не маглі разабрацца, што гэта і адкуль столькі машын.

## Пра Чарнобыль не чулі?

Госці размаўлялі з мясцовымі пра палітыку, але вельмі асцярожна. У свядомасці засела ўстаноўка пра "Вялікую Кепскую Расію". Спрабавалі размаўляць пра Чарнобыль.

– Нам адказваюць: "Ну, так, гэта маленькі гарадок ва Украіне. А чаму вы пытаецеся пра яго"? Расказваем пра ядзерную аварыю, а яны нібы першы раз пра яе чулі. Тады было мала незалежнасці ад Расіі. Нашы суразмоўцы глядзелі ў бок Вільні, таму што там незалежнасці дабіліся.

На зваротным шляху ў цягніку дэлегаты ехалі са сваёй перакладчыцай Монікай. Яна прапанавала вучыць рускую мову ў Германіі. Спачатку сабралася сем ці восем ахвотных, праз паўгода застаўся вучыцца толькі Ахім.

Праз год немец зноў вярнуўся ў Маладзечна, і ўжо някепска мог размаўляць, напрыклад, "Menja savut Achim", "Tyt otshen krasivaja devushka", але з часам усё забывалася.

– Нам усім падалося, што людзі ў Беларусі вельмі добразычлівыя. Можа, таму, што ў іх менш тэхналогій. Лічу, што тэхналогіі робяць людзей не самымі прыемнымі. Цікава было б убачыць горад праз 27 год. 27 год, уяві сабе, вау!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота забяспечанае Ахімам БОШАМ.**



Наташа, удзельніца беларускага хору, вывучала музыку ў Мінску.




Афіша нямецкага гурта. “Авалон” спяваў свае песні, рэакцыя на іх была ў стылі “окей”.



Дэлегацыя прыехала ў “kolchose”.



Ахім мяркуе, што каверы на ACDC ці іншыя рок-гурты 90-х маладзечанцам спадабаліся б больш.

**Даведка “РГ”.** У 1990 годзе Беларусь уваходзіла ў склад СССР. А адносіны паміж савецкай дзяржавай і Федэратыўнай Рэспублікай Германія пасля Другой сусветнай вайны былі няпростыя. Пасля паражэння Германію падзялілі паміж саюзнікамі. Тэрыторыі, падпарадкаваныя Вялікабрытаніі, ЗША і Францыі, увайшлі ў ФРГ са сталіцай у Боне. Савецкі сектар краіны ўвайшоў у Германскую Дэмакратычную Рэспубліку са сталіцай ва Усходнім Берліне.
У сярэдзіне 1950-х ФРГ уступіла ў НАТА, ГДР – у Арганізацыю Варшаўскага дагавора. У 1961 годзе паміж Усходнім і Заходнім Берлінам пабудавалі сцяну. На ўсходняй частцы размяшчалася вялікая база савецкіх салдат, сектар стаў найважнейшым пунктам савецкага лагера ў халоднай вайне. У 1970-м краіны ад канфрантацыі перайшлі да супрацоўніцтва. Маскоўскі дагавор зафіксаваў непарушнасць межаў, і ФРГ стала адным з найважнейшых гандлёвых партнёраў Саюза. У канцы 1980-х напружанасць паміж бакамі пачала змяншацца. 9 лістапада 1989 года Берлінскую сцяну знеслі. У 1990-м ГДР увайшла ў склад ФРГ, халодная вайна скончылася, савецкія войскі сышлі з Германіі.




Паездка ў цягніку падалася вельмі доўгай. У Брэсце давялося мяняць колы, таму што шырыня рэек у Еўропе і Саюзе была розная. Вагоны заязджалі ў вельмі вялікую і старую залу. Пасажыры выйшлі і чакалі, пакуль памяняюць колы. На сценах былі вялізныя старыя карціны з Леніным. Вагоны падымалі прыкладна на 80 сантыметраў, забіралі еўрапейскія колы і прымацоўвалі савецкія. У гэты час госці чулі, што першыя людзі з савецкага боку, якіх яны бачылі, зайшлі ў вагон правяраць пашпарты. Размаўлялі з іншымі рускамоўнымі, якія прыехалі з Еўропы. Моцна крычалі паруску. Не разумелі, у чым прычына, пачалі хвалявацца, што будуць праблемы падчас праверкі іх пашпартоў. Калі кантралёры зайшлі да немцаў, былі мілыя і прыемныя. Праз нейкі час госці вырашылі, што гэта было проста шоу, каб пасмяяцца з першых наведнікаў Расіі. На здымку – Ахім Бош.

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ. ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 2)

## Вучым шахматам дашкольнікаў разам

**Паважаныя педагогі! Я вельмі цаню і паважаю вашу працу. Разумею, наколькі важна працаваць з дзеткамі ў дашкольным узросце. І наколькі каштоўным будзе, калі вы дасце першыя шахматныя веды юнаму чалавеку.**

Гэта важна для яго, важна для краіны. Ну а вас, паважаныя педагогі, аддзячаць у асноўным на нябёсах... (жартую).

Нават калі вы самі не ўмееце гуляць у шахматы, вы зможаце ім навучаць. Вучыцеся разам з дзецьмі. Кожны ўрок – 10-15 хвілін для дзетак 4-6 гадоў.

Усіх, абсалютна ўсіх, можна і трэба навучыць! У мяне ў сям'і не ўмеюць гуляць у шахматы толькі кот Ціка і сабака Кунак.

### Урок першы. Назва фігур і шахматная дошка

Шахматных фігур не так шмат. Гэта кароль, ферзь, ладдзя, слон, конь і пешка.

Фігуры бываюць белыя і чорныя. Назвы фігур ўмоўныя. Больш правільна казаць пра светлыя фігуры і цёмныя, гэтак жа, як і пра палі шахматнай дошкі: светлыя і цёмныя.

Напрыклад, драўляныя шахматы звычайна маюць расфарбоўку жоўтых і карычневых фігур.




Дакладна такія ж і чорныя фігуры. Прапануйце дзіцяці паўтарыць іх назвы.




Зразумела, што на дыяграме-малюнку і "ўжывую" шахматныя фігуры могуць адрознівацца па дызайне. Яны і ў розных кнігах, часопісах і інтэрнэце могуць адрознівацца. Але па агульным разуменні ўсе фігуры лёгка пазнаюцца. Часам у пачаткоўцаў бывае блытаніна з каралём і ферзем. Але гэта блытаніна з досведам праходзіць.

**Заданне на першыя ўрокі:**

– вывучыць назву фігур і вызначаць іх па форме, малюнку, навобмацак;

– намалюйце або зляпіце з пластыліну шахматныя фігуркі. Няхай дзіця вызначае і называе іх па чарзе і па колеры;

– выражце аднолькавыя кубікі з кардону двух колераў – цёмныя і светлыя. Няхай дзеці навучацца правільна складаць з кубікаў элементы шахматнай дошкі;

– намалюйце элементы шахматнай дошкі (частка дошкі, неабавязкова ўсю) і фігуры на ёй;

– няхай дзіця навучыцца ставіць фігуры і маляваць іх на дошцы – строга ў цэнтры поля, светлага ці чорнага;

– гульня "Чароўны мяшочак". Вазьміце непразрысты мяшочак. Пакладзіце якую-небудзь фігуру. Няхай дзіцця навобмацак вызначыць фігуру і скажа назву;

– дайце дзецям пагуляць у фігуркі. Няхай яны іх чапаюць, мацаюць, прывыкаюць.

Пагуляйце з дзецьмі ў школу. Адно дзіця будзе настаўнікам, а другое – вучнем. Настаўнік паказвае фігуру, а вучань кажа, як называецца. Настаўнік вызначае, правільна ці не. Калі займаецеся індывідуальна, паспрабуйце стаць "вучнем". Рабіце памылкі наўмысна – няхай юны шахматыст вас выпраўляе.

Правільна, калі дзеці навучацца без памылак вызначаць фігуры: белы слон, чорны конь, чорны ферзь, белы кароль, белая пешка і г.д.



Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.

# Аб'яднанне клубаў з Маладзечна і Чысці – гэта бязглуздзіца




Фота суполкі ФК "Чысць".

**Пакуль заўзятары спрачаюцца, ці будуць аб'ядноўваць каманды, футбольны клуб "Чысць" ужо выйшаў на першыя трэніроўкі.**

МАЛАДЗЕЧНА

**Навіна пра магчымае аб'яднанне двух футбольных клубаў узбударажыла і падзяліла каляфутбольную грамадскасць на два лагеры. Адны сцвярджаюць, што такое аб'яднанне пойдзе на карысць гораду і футболу, іншыя ўпэўненыя, што чысцінцы пахаваюць маладзечанскі футбол назаўжды.**

Мы паспрабавалі сабраць думкі людзей, якім, як гаворыцца, гэта тэма блізкая і вядомая "знутры", але, на жаль, не ўсе захацелі назваць сваё імя ў прэсе.

Таму, з вашага дазволу, я проста агучу думкі некаторых "ананімна". Раблю гэта дзеля таго, каб пакінуць роздум над лёсам футбола ў Маладзечне.

– Аб'яднанне каманд – гэта абсурд і бязглуздзіца. Такога не будзе, – падзялілася з намі сваімі думкамі адна аўтарытэтная крыніца, – каманду з Чысці фінансуе вобласць. А Маладзечна, хутчэй за ўсё, застанецца гуляць у другой лізе. Усё так званае аб'яднанне скончыцца тым, што некаторыя маладзечанскія гульцы проста пяройдуць гуляць у Чысць.

Заўзятар і наш аўтар **Дзміры Рухлевіч** таксама выказаў сваю пазіцыю адносна магчымага аб'яднання.

– Пасля заканчэння футбольнага сезона-2017 я ўжо выказваў на старонках "Рэгіянальнай газеты" сваё меркаванне наконт аб'яднання футбольных клубаў "Чысць" і "Маладзечна-ДЮСШ-4". Тады я казаў, што гэта шанец для Маладзечна згуляць у першай лізе ўпершыню за 14 гадоў. Але сёння з'явілася інфармацыя аб тым, што ФК "Чысць" можа атрымаць бюджэтныя сродкі для фінансавання павышэння ў класе, прычым менавіта пасля заяў прадстаўніка каманды **Мікалая Мятліцкага** аб развіцці футбола ў Маладзечанскім раёне. Але ў той жа час Мікалай Мятліцкі, на маю думку, катэгарычна настроены на прывязцы клуба не да нашага раёна, а да асобна ўзятага населенага пункта, пасёлка Чысць, як у геаграфічным плане, так і ў плане назвы каманды. І гэта, што супярэчыць яго першапачатковым словам пра агульнасць Маладзечанскага раёна.

Толькі вось як быць з тым момантам, што для выступлення ФК "Чысць" у першай лізе неабходныя немалыя грашовыя сродкі, з-за чаго ставіцца пад сумнеў існаванне футбольнай каманды горада Маладзечна, якая ўсім вядомая сваёй багатай гісторыяй і аддадзенымі заўзятарамі?

– Тут я бачу толькі два шляхі развіцця падзей: альбо ў першую лігу ідзе агульны футбольны клуб, які прадстаўляе Маладзечанскі раён без прывязкі да якога-небудзь асобнага населенага пункта і пераймае традыцыі маладзечанскага футбола, альбо ФК "Чысць" працягвае выступаць ад імя свайго пасёлка, але толькі за кошт той часткі бюджэтных сродкаў, якая не будзе перашкаджаць выступленню ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" на рэспубліканскай арэне ў другой лізе.

Які варыянт бліжэйшы, кожны абярэ для сябе сам.

– Аднак нельга не прызнаць, што ў першым выпадку наш раён атрымаў бы сапраўды моцную аб'яднаную каманду, якая мела б шанцы на заўтрашні дзень, а ў другім – мы зноў сутыкнёмся з парадкам, які надакучыў за многія гады дзяльбой паміж двума камандамі, якая толькі тармозіць развіццё нашага футбола.

Мікалай Мятліцкі раней у інтэрв'ю нашаму выданню параўнаў сітуацыю з камандай "Гарадзея", што таксама выклікала негатыўны водгук у заўзятараў.

– Там пахавалі клуб з гісторыяй з Нясвіжа, што заўзятары і фанаты не могуць даравацъ і цяпер, – кажа Дзмітры Рухлевіч, – там жа прастойвае добры стадыён, людзі з немаленькага горада засталіся без футбола, пакуль цукровы завод сваёй камандай гуляе ў вышэйшай лізе ў маленькім пасёлку. Падобным чынам быў пахаваны футбол і ў Лунінцы. Не хацелася б унесці ў гэты спіс яшчэ і Маладзечна.

У аддзеле адукацыі, спорту і турызму пакуль 100-працэнтнага адказу на пытанне ніхто не дае. Кіраўніцтва ФК "Чысць" і ФК "Маладзечна", кіраўніцтва ДЮСШ працягваюць сустракацца з кіраўніцтвам горада, вырашаюць пытанні.

Адно вядома дакладна. ФК "Чысць" ужо пачаў перадсезонную падрыхтоўку і рыхтуецца да свайго дэбюту ў першай лізе. А з Маладзечнам ці без яго, мяркую, хутка дазнаемся.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Яны могуць пражыць без вады даўжэй за іншых жывёл.
5. Васьміног мае іх тры.
9. Лінія на карце, якая злучае месцы з аднолькавым атмасферным ціскам у пэўны час.
10. На гэтым інструменце іграў хлапчук у казцы "Музыка-чарадзей".
12. За забойства гэтай жывёлы ў Кітаі прадугледжанае смяротнае пакаранне.
14. Любімы колер камароў.
16. Унутраная частка плода.
18. У гэтай рацэ жыве ўнікальны ружовы дэльфін.
19. Хараство, прыгажосць.
20. Рад гарызантальна размешчаных прадметаў адзін над другім.
22. Што атрымаў у спадчыну ад бацькі старэйшы сын у казцы "Кот у ботах"?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. На гербе гэтага беларускага горада, на сінім фоне, – выява жоўтых гор, над якімі ўзвышаецца паўмесяц з зоркай.
3. Сорт цвёрдых цукерак у выглядзе плітачак карычневага колеру, якія робяцца з малака, цукру і патакі.
4. Род войска, якое дзейнічае пешым парадкам.
6. Пачуццё ласкі, замілавання, мяккасці.
7. Муж, якога прынялі ў сям'ю жонкі, які жыве ў доме жонкі.
8. З якой бы вышыні ён ні зваліўся, застанецца жыць.
9. Кіруючыя ўказанні, падрабязныя настаўленні.
11. Тое, што і іначай.
13. Хвалі, якія б'юць у бераг.
15. Дасканалы ўзор.
16. Высокая елка.
17. Яе сустрэў Іван-бядняк у беларускай казцы "Два браты".
21. Марскі арол.

## Адказы на крыжаванку з №5

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Млынар. 6. Змеі. 7. Магілёў. 10. Хаўрус. 13. Вугор. 14. Кішэня. 15. Архідэя. 16. Хіба. 17. Волава. 18. Клетка. 22. Алоўкі. 23. Біцэпс. 24. Корнер.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Муфлон. 3. Ментол. 4. Брыз. 5. Мілавіца. 8. Вадарод. 9. Мілорд. 11. Шклоў. 12. Бахрэйн. 19. Хуткі. 20. Лес. 21. Амар. 24. Карэлічы. 25. Вавёрка.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. "**Тайна вострава людаедаў**" (пірацкі трылер у адной дзеі) 8+, Дамір Салімзянаў

13 лютага – у 11:00

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

"**Любоў па-італьянску**" 16+ (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*

10 лютага – у 17:00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" 16+ (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*

13 лютага – у 19:00

Прэм'ера. "**Дырыжор**" 16+ (монадрама ў адной дзеі), *Лявон Агулянскі*

16 лютага – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Прыгажуні**" 16+ (амерыканская камедыя ў 2-х дзеях), *Айван Менчэл*

22 лютага – у 19:00

**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

"**Шчаўкунчык**" 3+ (музычная казка для дзяцей па матывах казкі Э.Т.А.Гофмана)

24 лютага – у 11:00 і 13:00

"**Тарас на Парнасе**" 12+ (народная забава з мядзведзем у 2-х дзеях), *Сяргей Кавалёў*

24 лютага – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Ну, вы даяце**" 16+ (камедыя па матывах сучаснай драматургіі)

28 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:

**74-63-86** – намеснік дырэктара,

**74-63-88** – галоўны адміністратар,

**74-63-85** – каса.

E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

"**Тры парсючкі**" (музычная казка) І. Сідарук (бел.)

11 лютага - у 12:00

"**Снежная каралева**" (чароўная казка) Г. Х. Андэрсэн (рус.)

25 лютага - у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**

Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**. УНП 600136804

## ГАРАСКОП 9-15 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Спрыяльны перыяд для нейкіх пачынанняў, звязаных з работай і фінансавым станам. Але расходуйце свае сілы ў меру, не перастарайцеся. Дзейнічайце ў абход, шукайце альтэрнатыўныя шляхі вырашэння сітуацыі. Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію.



**ЦЯЛЕЦ.** У вас ёсць два шляхі. Першы – нікуды асабліва не рваццa, не спяшацца і дзейнічаць плаўна. Задавольвайцеся тым, што маеце, і гэта культывуйце. Другі варыянт, увязацца ў актыўную дзейнасць, пошук новых ідэй. Гэта можа прынесці пэўныя вынікі, але толькі затрачаных сіл будзе значна больш, а яшчэ можна сапсаваць адносіны з навакольнымі. Выбар за вамі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вялікае задавальненне і душэўны пад'ём прынясе час, праведзены з дзецьмі. Да таго ж вы адчуеце прыліў сіл і энергіі, таму плённа папрацуеце і паспееце нашмат больш, чым звычайна.



**РАК.** Гэты час пашырыць межы вашага пазнання – вы з поспехам можаце пісаць дысертацыю, выступаць перад масавай аўдыторыяй, здаваць экзамены экстэрнам. І сачыце за тым, каб не сказаць шмат лішняга.



**ЛЕЎ.** Што ж, вы смела можаце прытрымлівацца сваёй мары, асабліва калі яна носіць матэрыяльны характар, але нават калі і нейкай іншай, вашаму поспеху гэта не перашкаджае.



**ДЗЕВА.** У вас адносіны з другой палавінкай зайшлі ў тупік? Адпусціце сітуацыю, дайце вашым адносінам працякаць спакойна і праяўляйце больш мяккасці ў характары.



**ШАЛІ.** Вам цяжка быць адным. Але не трэба засмучацца. Лепш успомніце пра хобі ці схадзіце ў якое-небудзь цікавае месца, дзе вам не будзе сумна ў адзіноце. Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў ваш час.



**СКАРПІЁН.** Усе гэтыя дні вам прыйдзецца круціць кола Фартуны ў свой бок. Задача гэта хоць і прыемная, але няпростая. Ад вас запатрабуюцца актыўныя і рашучыя дзеянні, ініцыятыўнасць і напорыстасць у справах. Ідэі, якія ўзнікнуць, будуць лёгкія ў выкананні і прынясуць поспех, таму запомніце іх і адразу ўвасабляйце ў жыццё.



**СТРАЛЕЦ.** Вы можаце здзейсніць прарыў, выйсці на новы ўзровень развіцця. Можаце ствараць свой бізнес. Не бойцеся нічога! Ключ – энергія, якая вас перапаўняе.



**КАЗЯРОГ.** Калі ў сям'і наспяваюць буйныя спрэчкі, то не накручвайце сябе, ведайце, што дрэнныя думкі маюць уласцівасць збывацца.



**ВАДАЛЕЙ.** Дні будуць спрыяльныя, але не надта актыўныя. Справы будуць развівацца павольна, можа назірацца нават нейкі застой, што ў прынцыпе не перашкодзіць вам радавацца жыццю, а дасць магчымасць не перажываць аб бягучым і будучыні. Душэўная раўнавага і ўнутраная гармонія будуць напаўняць вас, што самае галоўнае, і гэта спрыяльна адаб'ецца на ўсіх падзеях і дзеяннях, у тым ліку на эмоцыях і самаадчуванні.



**РЫБЫ.** Зрабіце прыпынак у гэтым імклівым тэмпе жыцця, бо вы ўжо стаміліся і фізічна, і эмацыйна. Пераглядзьце рабочы графік. Знайдзіце магчымасць для заняткаў спортам, актыўнага адпачынку.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 5 | | 1 | | 8 | | |
| 4 | | 8 | | | | | | 2 |
| 3 | | 1 | 4 | | | 7 | | |
| | | | 7 | | 9 | 6 | 2 | |
| 2 | | 4 | 1 | | | 5 | | |
| | | 9 | | 2 | | | | 7 |
| | | | 9 | | | 3 | | 6 |
| | | | | 3 | | | 5 | 8 |
| | | | | | 6 | | | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

### 10 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -4 / -2 | | -3 / -1 | | -3 / -2 | | -5 / -3 | |
| | 740 | ↙ 5 | 739 | ← 2 | 738 | → 3 | 738 | ↖ 1 |
| Вільня | -2 / -1 | | -3 / -1 | | -4 / -2 | | -5 / -3 | |
| | 748 | ↙ 3 | 746 | ↙ 2 | 745 | → 2 | 745 | ↑ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 8.42
Захад 18.11
Даўжыня дня 9.29

Усход 13.42
Захад 4.38
Квадра 2

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -2 / 0 | 748 | ↖ 3 |
| Гродна | -2 / -2 | 750 | ↓ 3 |
| Мінск | -1 / 0 | 727 | ↙ 5 |
| Магілёў | -2 / 0 | 747 | ↖ 3 |
| Брэст | -3 / 0 | 748 | ↙ 3 |
| Гомель | -1 / -1 | 748 | ↖ 2 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -28,1 °C у 1985 годзе
Максімальная тэмпература +6,2 °C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,5 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

- Для чаго на гэтым тыдні прыязджае спадар Паверааны ў справах пасольства Каралеўства Нідэрландаў у Маладзечна і ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты".



# Паляванне пана Бароўскага на фота можна ўбачыць на выставе ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Атрымаць гэтыя здымкі першай паловы 20-га стагоддзя было марай многіх краязнаўцаў, упэўнены старшыня Вілейскага таварыства аховы помнікаў Дзяніс Канецкі.**

На фота маёнтак Юнцавічы ў 1930-х гадах.

Адкрыццё выставы прызначанае на пятніцу, 23 лютага, у выставачнай зале імя Сілівановіча. Пачатак а 17 гадзіне.

Вясной Дзяніс атрымаў адрас **Сафіі Бароўскай**, спадкаемцы аднаго са старажытных шляхецкіх родаў, прадстаўнікі якога жылі на Вілейшчыне. Аказалася, што жанчына памерла некалькі год таму. Засталася яе дачка **Катажына**, якой цяпер 68 год. Некалькі месяцаў Дзяніс перапісваўся з ёй.

Жанчына даслала краязнаўцу больш за сотню фотаздымкаў. Пераважна на іх – маёнтак Юнцавічы і людзі, што ў ім жылі. Ёсць фота палявання гаспадара Юнцавічаў **Казіміра Бароўскага**. На фотакартках відаць багаты інтэр'ер маёнтка, заўважна, чым займаліся людзі, што жылі ў ім.

У калекцыі ёсць таксама карткі Багдановічаў, Альковічаў, Мацькаўцаў. Акрамя маёнтка Юнцавічы, наведнікі ўбачаць убранства Лукаўца.

На выставе таксама распавядуць пра род Бароўскіх і цікавыя факты пра фота.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы святкуеце Дзень Святога Валянціна

**Юлія Рамановіч, маркетолаг:**
– Раней, калі не мелі дзіцяці, наладжвалі сабе рамантычны вечар. Цяпер гэта проста прыемны сямейны вечар ужо з дзіцем, якое для нас як святы Валянцін.

**Кацярына Шытыка, дырэктар прыватнага прадпрыемства:**
– Муж у мяне – рамантык, таму святкуем. Гэта абавязкова паход у рэстаран, каб я адпачыла ад гатоўкі, цюльпаны з валянцінкай і туалетная вада. Летась на гэта свята мы правялі рамантычныя выхадныя ў Літве.

**Раман Кузьмін, кіроўца аўтобуса:**
– Па-рознаму. Сёлета буду святкаваць з каханай дзяўчынай. Летась сабраліся з сябрамі-хлопцамі і пайшлі ў клуб.

**Юлія Ярашонак, вучаніца:**
– Звычайна дару паштоўкі-валянцінкі сваім знаёмым дзяўчынкам. Хлопчыкам дарыць сароменюся.

**Таццяна Лугоўская, эканаміст:**
– Дару невялікія падарункі мужу і сяброўкам. Памятаю, у старэйшых класах свой першы Дзень Валянціна. Тады я падарыла хлопчыку, які мне падабаўся, ліхтарык-сэрцайка, а ён мне кніжку пра каханне.

**Міхаіл Кісель, будаўнік:**
– Пакуль быў халасцяк, адзначалі з сябрамі ў вялікай кампаніі. Цяпер з жонкай дома пасядзім крыху. Тым больш, будні дзень.

**Святлана Слінко, настаўніца:**
– У школе ставім вялікую скрыню для валянцінак. За некалькі дзён яна поўная да краёў. Старшакласнікі 14 лютага разносяць паштоўкі па класах. Кожны год некалькі валянцінак ад сваіх вучняў атрымліваю і я. Дома ніяк не адзначаем, хіба толькі вусна віншуем адзін аднаго.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№6 (1189) 9.02.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 150 . Падпісана ў друк у 9.00 8.02.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.